Cena 60 gr. Цава 60 гр.



ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 21 (169) БЕЛАСТОК, 24 МАЯ 1959 года ГОД IV

ПЕРАД АГЛЯДАМ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ

# ХОЧАМ ВЕДАЦЬ, што маем

У нашых вёсках існуе шмат аматарскіх гурткоў, пераважна драматычных. Маюць яны свае дасягненні, якія даюць пэўны прагрэс у развіцці беларускай культуры ў нашай краіне.

Таму штогод адбываюцца павятовыя агляды мастацкіх гурткоў. Гэтыя агляды паказваюць усяму грамадству новыя дасягненні нашай мастацкай самадзейнасці, здабытыя за пройдзены год.

У бягучым годзе павятовыя агляды беларускіх драматычных гурткоў пачнуцца ў першай палове чэрвеня. Найлепшыя гурткі паедуць на цэнтральны агляд, які адбудзецца ў Беластоку ў палове месяца ліпеня.

Мастацкі ўзровень нашых гурткоў расце. Гэта, несумненна, з'яўляецца вынікам іх няспыннай, сістэматычнай працы. Але выступае тут і яшчэ адзін вельмі важны факт для нашага аматарскага руху. Смела можна сказаць, што ў гэты рух актыўна ўключыліся настаўнікі — аснова нашай інтэлігенцыі.

Нядаўна настаўніца Станіслава Абухоўская наладзіла пастаноўку ў Лішчаной (Сакольскі пав.). Настаўніца Бароўская ў Юшкавым Грудзе (Беластоцкі пав.) актыўна дапамагла нядаўна арганізаванаму драматычнаму гуртку. Настаўніца Галя Карпюк са Шчытоў (Бельскі пав.) сапраўды пабівае рэкорды грамадскай працы і... інтэлектуальнай вытрымкі. Вядзе адначасова тры мастацкія гурткі — драматычны, танцавальны і харавы! Адрадзіла мясцовы гурток Генрыка Кульчаневіч — настаўніца з Чыжоў, Гайнаўскі пав. А ёсць жа іх дзесяткі!

Агляд набліжаецца. Беларускія драматычныя гурткі рыхтуюцца да гэтага вялікага іх свята — сяброўскага змагання за вышэйшы ўзровень дасканаласці, трапнасці і выразнасці аматарскай акторскай ігры. І так, у гэтым годзе наша грамадскасць спадзяецца высокага прыбытку ў скарбніцу народнай культуры.

Сакрат ЯНОВІЧ
Інструктар ГП БГКТ

## З ВАРШАВЫ

У сувязі з III гадавінай існавання Аддзела БГКТ у Варшаве, у суботу 16 мая адбыўся тут баль, папярэджаны ўрачыстым вечарам. У праграму вечара ўвайшла гутарка сябра Ластаўкі аб 3-гадовай дзейнасці аддзела і выступленне мастацкага калектыву ГП БГКТ з Беластока.

З вершамі беларускіх паэтаў выступалі таксама студэнты беларускай філалогіі Варшаўскага Універсітэта.

вл.

## ЦВІТУЦЬ САДЫ



Фота — Л. Каралеўскі

## ПАГРАНІЧНІК



Ля вогнішча стырчаў кінжал.

(Чытай рэпартаж стар. 3)

Фота — Л. Каралеўскі

# БГКТ у Дні асветы...

Павятовы Аддзел БГКТ у Саколцы Дні асветы, кніжкі і друку сустрэў выстаўкамі беларускай кніжкі. У самім мястэчку наладжана выстаўка ў габлётцы каля рынку. Беларуская літаратура выстаўлена і ў грамадскіх бібліятэках павета.

У мясцовым Педагагічным ліцэі вывешана каляровая афіша ў прыгожай раме аб Янку Купалу і афіша аб Кастусю Каліноўскім.

Павятовая бібліятэка ў Саколцы напярэдадні Дзён асветы атрымала новы транспарт кніжак на беларускай мове ў колькасці 225 экземпляраў.

* * *

Павятовы Аддзел БГКТ у Міхалове сумесна з мясцовым Домам культуры наладзіў таксама выстаўку беларускіх кніжак і часопісаў. Арганізаваны кніжны кірмаш, на якім дагэтуль распрадана каля 450 лёсаў.

* * *

Гарадскі Аддзел БГКТ у Беластоку гэтымі днямі наладзіў яшчэ адну вялікую выстаўку беларускіх кніжак, газет і часопісаў, якая размешчана ў холе Дома прафсаюзаў. Так што ў Беластоку ёсць ужо дзве вялікія выстаўкі беларускіх кніжак і друку, наладжаныя Гарадскім Аддзелам нашага Таварыства.

(ся)

* * *

Павагай і аўтарытэтам сярод насельніцтва карыстаецца грамадскі бібліятэкар Мікола Жукавіцкі з Ласінкі. Ён умее прывіць у чытача любоў да кніжкі і газеты, за што неаднойчы быў узнагароджаны павятовай бібліятэкай у Гайнаўцы.

Нядаўна ў бібліятэцы арганізаваў ён выстаўку найбольш папулярных кніжак, што ў значнай ступені заахвоціла моладзь і старэйшых да іх чытання.

Да чытачоў, якія найбольш цікавяцца кніжкай, трэба залічыць Івана Журобскага, вясковага каваля. Гэты пяцідзесяцігадовы чалавек на ўсё жыццё зжыўся з кніжкай і навечна яе палюбіў. На працягу апошніх 3—4 гадоў ён прачытаў больш чым 200 рускіх, беларускіх і польскіх кніжак.

Далей ідзе Аляксандр Раманюк, які таксама любіць многа чытаць.

ЯНКА ПЛЕВА
вёска Ласінка
павет Гайнаўка

 



— На працягу 20 мінут вы абавязаны быць на месцы.

# „ПАГРАНІЧНІК"

— Збюрка! — пачулася энергічная каманда важатага Тадэуша Адамчыка, і на працягу некалькі хвілін атрад узброеных гарцэраў стаяў перад ім на «смірна», выцягнуўшыся ў дзве роўныя стрункі.

— Вольна! — ізноў падаў каманду важаты.

— Малайцы, — пахваліў гарцэраў афіцэр пагранічнай заставы Рышард Лятасінскі. Школьнікі ўсміхнуліся, задаволеныя.

— Задачу атрымаеце на заставе, — звярнуўся афіцэр да важатага. — На працягу 20 мінут вы абавязаны быць на месцы. Ну, рэбяты, тады ў дарогу. І не лавіць мне варон па дарозе! Пагранічнікі не зяваюць, — падміргнуў ён гарцэрам.

Ізноў пачулася каманда: на пра-во! Шагам марш! — і выстраены атрад гарцэраў бадзёрым крокам накіраваўся ў бок дзяржаўнай граніцы.

Вакол пагранічнай заставы шумела старая Белавежская пушча. Паміж стогадовых дубоў - волатаў, стройных высокіх сосан і елак бегла зусім непрыкметная для неспрактыкаванага вока сцяжынка. Але гарцэры ведалі добра кожны яе паварот, кожную выямку на ёй. Ужо шмат разоў даводзілася ім прабірацца ёю па розных заданнях на заставу. Не прайшло яшчэ 20 мінут, як атрад гарцэраў, быццам вынырнуўшы з пушчы, з'явіўся перад заставай.

— Задача ў нас вось якая, рэбяты, — распачаў афіцэр-пагранічнік Фёдар Енаш, калі гарцэры пастроіліся ў шэраг. Мы атрымалі вестку, што граніцу перайшоў парушальнік. Задача: адшукаць яго сляды, паведаміць заставе і супольнымі сіламі выкрыць парушальніка. Гарцэры Тадэуш Адамчык і Вацлаў Ядчак, — працягваў далей афіцэр, — пойдуць са мной у засаду. Гарцэры Янка Арцімовіч, Адам Кумароўскі і Вільгельм Гродзь пойдуць у патруль.

— Усе астатнія, — у вострым пагатоўі застаюцца са мной на заставе, — загадаў афіцэр Рышард Лятасінскі.

Вызначаныя гарцэры бясшумна схаваліся ў гушчары пушчы. Двое з іх пад камандай афіцэра - пагранічніка хутка занялі ў вызначаным месцы засаду. Замаскіраваныя густымі галінкамі елкі, яны пільна сачылі за вузенькай лясной прасекай, што праходзіць побач пагранічнай паласы. Мо' сюдой пройдзе парушальнік?

А ў той час патруль юных «пагранічнікаў» асцярожна, крок за крокам, трымаючы напагатове зброю, пільна прачосваў лес уздоўж пагранічнай паласы. Недзе ў гушчары гэтага лесу крыецца парушальнік. Раптам яны пачулі недзе зусім блізка дым ад вогнішча. Асцярожна рассоўваючы галінкі, гарцэры пачалі падкрадацца да таго месца. Неўзабаве на невялічкай палянцы яны ўбачылі патухаючае вогнішча. Хутка падыйшлі да яго. Ля вогнішча, мабыць, забыты спяшаючымся парушальнікам, стырчаў, пабліскваючы вастрыём, кінжал. Адзін з гарцэраў выхапіў з кішэні насавую хустачку і далікатна, каб не заперці адціскаў пальцаў парушальніка на рукаятцы кінжала, выцягнуў яго з зямлі. — Трэба неадкладна паведаміць аб гэтым заставе, — сказаў ён.

Гарцэры ў поспеху прыселі ля апарата і, навязаўшы сувязь з заставай, далажылі аб выкрытым.

Атрад гарцэраў з заставы пад камандай афіцэра Рышарда Лятасінскага бегам кінуўся ў напрамку адзначанага патрулём месца. А патруль у той час ля вогнішча пільна разглядаўся ў наваколлі.

— Глядзіце, вось вядуць сляды ад вогнішча,—раптам прагаварыў Янка Арцімовіч, паказваючы на прымятую траву. — Яшчэ свежыя. Парушальнік недзе тут, недалёка Вы ідзіце па баках ззаду і ахоўвайце мяне, а я пайду слядамі.

Яны рушылі і раптам пачулі трэск сухіх галінак у гушчары наперадзе іх. Трымаючы напагатове зброю, гарцэры прытаіліся за тоўстымі ствaламі дрэў. У лесе пачуўся ўсё набліжаючыся топат шматлікіх ног.



Яны пільна сачылі ўздоўж лясной прасекі.

Гэта спяшыла падмацаванне з заставы. Раптам з горла прасекі, што адыходзіла ад палянкі, быццам спуджаны заяц, выскачыў парушальнік.

— Стой! Рукі ўгору! — дружна крыкнулі патрульшчыкі.

Парушальнік застыў на момант і раптам, павярнуўшыся скочыў назад.

— Стой! — крыкнуў на яго афіцэр, выходзячы з-за дрэў і перарэзваючы парушальніку дарогу назад. Бяссільны парушальнік высока падняў рукі. Яго хутка акружылі. Неўзабаве раздаўся свісток афіцэра. Заняткі закончаны. Гарцэры кругом паселі на лясной палянцы. Паміж імі нядаўні «парушальнік» граніцы гарцэр Юзэф Сасноўскі.

Афіцэры сёння ацанілі заняткі на «выдатна». Задаволены атрад гарцэраў - пагранічнікаў з бадзёрай песняй вяртаўся лясной прасекай у школу. Спявала сваю адвечную песню старая Белавежская пушча, ветліва памахваючы ўслед гарцэрам галінкамі.

Гарцэрскі атрад «Пагранічнік» у Белавежскім лясным тэхнікуме існуе ад 1957 года. Ён налічвае 54 школьнікаў. Увесь час атрад утрымоўвае цесную сувязь з пагранічнай заставай. Афіцэры - пагранічнікі вельмі ахвотна апякуюцца сваімі юнымі памочнікамі.

Аб гарцэрскім атрадзе «Пагранічнік» жыхары Белавежы вельмі добра гавораць. Есць у атрадзе група «Цімураўцаў». Удавы і старэчы неаднойчы здзіўляліся, хто ж гэта ім дапамагае ў рабоце? І мо' яшчэ дагэтуль не ведаюць, што гэта юныя «Цімураўцы» «Пагранічніка».

В. БАРШЧЭЎСКІ



— Трэба неадкладна паведаміць заставе.



— Стой! Рукі ўгору!

Фота: — Л. Каралеўскі

З ГІСТОРЫІ КАМСАМОЛЬЦАЎ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ 6)

## Другая канферэнцыя камсамола

У маі 1932 года адбылася шырокая нарада партыйнага і камсамольскага актыву па пытаннях работы камсамола Заходняй Беларусі. У чэрвені 1932 года была праведзена другая канферэнцыя камсамола ЗБ. На ёй была заслухана справаздача сакратара ЦК КСМЗБ Маслоўскага («Марціна») аб стане камсамольскіх арганізацый і аб дзейнасці ЦК КСМ Заходняй Беларусі. Затым канферэнцыя абмеркавала пытанні работы ў арміі і абароны Савецкага Саюза.

На канферэнцыі прысутнічаў прадстаўнік ЦК КПП Альфрэд Лямпэ, сакратар ЦК КСМ Польшчы, ён жа член выканкома КІМа, Яніцкі, прадстаўнік бюро ЦК КПЗБ Якаўлеў («Мотэль»), Леонцьеў («Словік»), прадстаўнік КСМ Заходняй Украіны і дэлегаты ўсіх акруг, за выключэннем Глыбокага і Ваўкавыска.

Канферэнцыя звярнула асаблівую ўвагу на работу камсамола ў буржуазных, нацыянальных, сацыял - шавіністычных арганізацыях моладзі, на стварэнне адзінага фронта барацьбы моладзі супраць фашызма. Яна паставіла перад нізавымі камсамольскімі арганізацыямі і ЦК КСМЗБ задачу: ператварыць КСМЗБ у сапраўды масавую арганізацыю з магутнай пралетарскай праслойкай. У сувязі з гэтым было вырашана на кожнай фабрыцы, заводзе, стварыць камсамольскія арганізацыі.

## Забастоўкі ў Гайнаўцы і Беластоку

Вясна 1933 года дала многа новага, павучальнага для КСМЗБ. Перш за ўсё камсамольскія арганізацыі актыўна ўключыліся ў забастовачную барацьбу, якая атрымала асабліва шырокі размах у Белавежскай пушчы, на Пружаншчыне і Слонімшчыне сярод рабочых лесанарыхтовак і возчыкаў. Тут за час удзелу ў забастоўцы павялічылася колькасць камсамольцаў.

Выключную актыўнасць і ўменне арганізаваць рабочую моладзь на барацьбу супроць фабрыкантаў, прадпрыемцаў паказалі камсамольцы Беластока, Гайнаўкі, Супрасля, Васількова, Міхалова, Гарадка. У Гайнаўцы на дзяржаўным дрэваапрацоўчым заводзе быў звольнен рабочы за адмову ад удзелу ў фашысцкіх урачыстасцях. У адказ на гэта па закліку камуністаў успыхнула палітычная забастоўка, удзельнікі якой запатрабавалі аднавіць яго на працы. Бастуючыя захапілі завод, арганізавалі самаабарону, прагналі паліцэйскіх патрулёў. Бастуючыя ўсюды выставілі свае пасты. Прадпрыемцы вымушаны былі задаволіць патрабаванне рабочых. Арганізацыю самаабароны ў асноўным узялі на сябе камсамольцы. Яны ўцягнулі ў яе склад вялікую колькасць рабочай моладзі. Частка моладзі, якая ўдзельнічала ў самаабароне, уступіла ў камсамол.

Вясной 1933 года пачалася забастоўка беластоцкіх тэкстыльшчыкаў. Першапачаткова забастоўка насіла спакойны характар. Фабрыканты і ўрад, ведаючы цяжкае матэрыяльнае становішча рабочых, спадзяваліся ўзяць іх зморам. Але тэкстыльшчыкі не

(Прасяг на стар. 4)



 

